Зберагчы і Павялічыць

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

№4 (73) • КРАСАВІК 2012

**Увага!**

***“Дзедзіч” адзначыць гадавіну аварыі на ЧаАЭС паездкай у зону адсялення.*** ***Падрабязней - на с. 11.***

# МЫ НЕ БАІМСЯ РАДЫЯЦЫІ




**Пакуль ў Астраўцы ідуць падрыхтоўчыя працы для будаўніцтва першага рэактара беларускай атамнай станцыі, уся краіна адзначае 26-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы.**

Да «мірнага атама» адносіны ў грамадстве неадназначныя: атамная энэргія дазволіць нам у некаторай ступені знізіць залежнасць ад расейскіх нафты і газу. Але краіне з вопытам Чарнобыля варта падыходзіць да атамнага пытання вельмі асцярожна. На справе ж мы маем вельмі сумніўны праект БелАЭС, які быў прыняты паспешліва, без належнага абмеркавання з грамадзянскай супольнасцю.

Земляныя працы на Астравецкай пляцоўцы пачнуцца ўжо ў чэрвені. Будаўніцтвам займецца расейская кампанія “Росатам” на грошы, якія Беларусь пазычыла ў Расеі. Расея ж з’яўляецца аўтарам мадэлі рэактара ВВЭР-1200, які яшчэ ніколі нідзе не працаваў.

Першы энергаблок плануецца ўвесці ў 2017 годзе. Другі – ў 2018.

Большасць жа беларусаў выступае супраць атамнай энергетыкі ці папросту не даверае ёй. Яшчэ да Фукусімы, у траўні 2010г. ў прамым эфіры ток-шоў «Выбар» на тэлеканале ОНТ з больш за 13000 рэспандэнтаў 87% заявілі пра тое, што не вераць у бяспеку сучасных АЭС.

Адмены праекту дабіваецца і Літва, на мяжы з якой запланаваны небяспечны аб’ект. У сакавіку яна звярнулася ў Камітэт па ажыццяўленні Канвенцыі пра ацэнку ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ў трансмежным кантэксце (ЭСПО).

Камітэт будзе разглядаць скаргу на праект беларускай АЭС да верасня бягучага года. «*Мы разумеем, што калі краіны Еўрасаюза - а гэта 27 галасоў у Канвенцыі з 42-х - вырашаць правесці якое-небудзь рашэнне, то нам складана будзе яму супрацьстаяць*», - заявіў начальнік упраўлення дзяржаўнай экалагічнай экспертызы міністэрства прыродных рэсурсаў Беларусі Аляксандр Андрэеў.

***

Пасля аварыі на Фукусіме за год ад атамных станцый адмовіліся Нямеччына, Італія, Швейцарыя. У Японіі з 54-х сёння працуе толькі адзін рэактар. Індыя не можа запусціць ужо гатовы расейскі рэактар з-за масавых пратэстаў насельніцтва. Кітай замарозіў свае ядзерныя праекты. У Польшчы на рэферэндуме атамнай электрастанцыі было адмоўлена ў размяшчэнні. Балгарыя адмовілася ад будаўніцтва расейскай АЭС. У чарзе – шэраг іншых краін.

## БЕЛАРУСЫ МАРАЦЬ ПЕРАЕХАЦЬ БЛІЖЭЙ ДА АТАМНАЙ СТАНЦЫІ

Летась на адной з прэс-канферэнцый Аляксандр Лукашэнка заявіў, што беларускі горад атамшчыкаў — Астравец — абавязкова стане самым прасунутым населеным пунктам краіны.

21-23 сакавіка ў Менску праходзіла выстава «Атамэкспо», якая дэманстравала праект будучай АЭС.

Астравец стане крутым горадам. Тут пракладуць чыгунку, аўтадарогі, пабудуюць дамы.

«*Нам трэба стварыць там інфраструктуру, каб жонкі і дзеці будучых працаўнікоў пачуваліся камфортна*», — сказаў на выставе віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка.

Генплан развіцця горада змяшчае будаўніцтва дзіцячых садкоў, прадпрыемстваў будаўнічай індустрыі і харчовай прамысловасці, гіпермаркета.

Не абыйдзецца без лядовага палаца разам з аквапаркам.

Па планах насельніцтва горада складзе 30-35 тысяч чалавек.

Сотні беларусаў, растлумачылі спецыялісты, актыўна цікавяцца, як можна пераехаць у горад, уладкавацца там на працу. Відаць, людзі разлічваюць на высокія заробкі і добры ўзровень жыцця. Напэўна, ён будзе не ніжэй, чым у горадзе «калійшчыкаў» — Салігорску.

**Альбіна ТРУС**

У НУМАРЫ:

2 **РАЗМЕРКАВАННЕ** новыя правілы

5 **ЧАРНОБЫЛЬ** мы губляем радыяцыю

8 **МОВЫ, ЯКІЯ ВЫЖЫЛІ** пераймаем досвед

9 **НКУС АРЫШТАВАЎ РАДЗІВІЛА** у Нясвіжскім палацы

УВАГА! КОНКУРС!

## ЗА СПРАВЕДЛИВЫЕ ВЫБОРЫ

**Хочешь узнать, как на самом деле считают голоса? Есть ли шансы у независимых кандидатов? Кто будет варить борщ на белорусской политической кухне?**

ТЫ ЗАПИСАЛСЯ НАБЛЮДАТЕЛЕМ?

У любого жителя Брестской области появилась возможность своими глазами увидеть подсчёт голосов на избирательных участках.

Кампания «За справедливые выборы» объявляет набор наблюдателей за парламентскими выборами-2012.

Для наблюдения за ходом голосования и подсчётом голосов приглашаются все желающие.

Наблюдатели пройдут профессиональную подготовку под руководством опытных тренеров, изучат избирательное законодательство РБ, получат все необходимые материалы для работы на избирательных участках.

Наиболее активные и успешные наблюдатели будут отобраны для участия в *наблюдении за выборами в европейских странах.*

**ПРИГЛАШАЕМ ЖИТЕЛЕЙ БРЕСТСКОЙ ОБЛАСТИ В КОМАНДУ НАБЛЮДАТЕЛЕЙ.**

**Условия участия:**

- Возраст от 18 лет
- Гражданство РБ
- Постоянное проживание на территории Брестской области
- Активная гражданская позиция.

**Звоните:**

(029) 724-21-16 - Дмитрий Шиманский.
(029) 652-00-42 - Игорь Масловский.
Интернет: http://vk.com/brest_za_sv
**Пишите:** shymanski@tut.by, skrynka002@mail.ru.
**Скайп:** dzedzich, maslouski

**dzedzich.org**

# МАСАВЫЯ ЎЦЁКІ БЕЛАРУСКІХ СУДДЗЯЎ

**Ужо два Указы аб вызваленні ад пасад суддзяў агульных судоў падпісаў А.Г. Лукашэнка з пачатку гэтага года.**

Блогер d-zholik звяртае ўвагу на ненатуральна вялікую колькасць суддзяў, якія напісалі заявы аб складанні з сябе паўнамоцтваў па ўласнай ініцыятыве.

Толькі паводле двух лукашэнкаўскіх Указаў гэтага года ад сваіх пасад добраахвотна адмовіліся 16 суддзяў агульных судоў. Улічваючы, што агульная штатная колькасць суддзяў названых судоў складае менш за 1.000, то толькі за пачатак 2012 года беларуская судовая сістэма практычна за адзін раз пазбавілася амаль 2% ад свайго складу. Гэта проста шокавая лічба.

Яшчэ больш жахлівая карціна бачыцца пры супастаўленні з аналагічным паказчыкам мінулага года. Дык вось, за ўвесь 2011 год па ўласнай ініцыятыве (сюды ўваходзяць: вызваленне ад пасады па ўласным жаданні; перавод на іншую працу; датэрміновая адстаўка) ад сваіх паўнамоцтваў адмовіліся усяго 11 суддзяў.

А толькі за тры першыя месяцы бягучага года – ужо 16.

У наяўнасці сапраўдныя ўцёкі суддзяў з сістэмы.

І нічога дзіўнага ў гэтым няма. Гэтым у асноўнай масе не дурным людзям не магло не абрыднуць, што ў краіне як ніколі ўзмацнілася «тэлефоннае права».

> КАЛІ РАШЭННЕ АБ ВІНАВАТАСЦІ КАНКРЭТНАЙ АСОБЫ ПРЫМАЕЦЦА НЕ САМІМ СУДДЗЁЙ САМАСТОЙНА, КІРУЮЧЫСЯ ТОЛЬКІ ЗАКОНАМ І СВАІМ СУМЛЕННЕМ, А СПУСКАЕЦЦА ЗВЕРХУ АБО З СУСЕДНІХ БУДЫНКАЎ МЯСЦОВЫХ ПРАКУРАТУР, ПАДПАДДЗЯЛЕННЯЎ КДБ І МУС.

Калі амаль усе пагалоўна грамадзяне з апазіцыйнымі поглядамі, кіраўнікі рэспубліканскіх апазіцыйных палітычных партый і іх рэгіянальных аддзяленняў прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці за нецэнзурную лаянку ў грамадскіх месцах.

Калі КДБ дае ўказанні суддзям закрываць загадзя псіхічна здаровых грамадзянаў у псіхіятрычныя лякарні.

Калі суддзям спускаюцца ўказанні аб неабходнасці вынясення абвінаваўчых прысудаў па палітычных справах.

Свой эфект далі і ўведзеныя еўрапейскія санкцыі ў дачыненні да беларускіх суддзяў.

Дарэчы, падобная з’ява адтоку кадраў назіраецца і ў МУС. Па ўсёй краіне падпадздяленні названага ведамства адчуваюць катастрафічны кадравы голад.

Толькі за апошні час з сістэмы МУС звольнілася некалькі тысяч чалавек.



Хоць яшчэ нейкіх некалькі гадоў таму, каб патрапіць на службу ў тыя ж РАУС, патрабавалася даць значны хабар патрэбным людзям з сістэмы МУС. Толькі пасля чаго ахвотнаму гарантавалася паспяховае праходжанне ведамаснай медкамісіі і залічэнне ў шэрагі «доблеснай» беларускай міліцыі. І вось праз некалькі гадоў такое…

Адзіная сістэма, якая не адчувае падобных праблем – гэта КДБ. Але туды першапачаткова адбіраюць людзей без усялякіх маральных прынцыпаў. Як гаворыцца, быў бы маральны вырадак, а месца ў КДБ для яго заўсёды знойдзецца.

Можна параіць уладам з дзяцінства выхоўваць людзей без сумлення для заняцця ў будучыні найбольш «адказных» пасадаў.

**charter97.org**

РЭГІЯНАЛЬНЫ ПАРТАЛ
Dzedzich.org
Аператыўна, праўдзіва, трапна.
Тое, што цікава для берасцейскай моладзі.
НАШ партал
Пішам пра тое, што баяцца гаварыць іншыя
пра НАШЫ справы
Мы адкрытыя для ўсіх меркаванняў.

Любіш праўду?
Прагнеш справядлівасці?
Маеш што сказаць іншым?
НАМ ПА ДАРОЗЕ
Чытай, пішы, працуй з намі.
Твае лісты чакаем на:
dzedzich@tut.by



МЫ НЕ ПЛАЦІМ ГРОШЫ — МЫ ДАЁМ СЛОВА!

# РАЗМЕРКАВАННЕ
## НОВЫЯ ПРАВІЛЫ

**Сёлета працэдура размеркавання будзе праходзіць у адпаведнасці з Кодэксам аб адукацыі, які ўступіў у сілу 1 верасня 2011 года.**

Што трэба ведаць пра новыя правілы выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў? Адказы на самыя важныя пытанні падрыхтавала «Камсамольская праўда»:




**1. Калі праходзіць папярэдняе размеркаванне?**

Не пазней чым за два месяца да заканчэння навучальнай установы. Патэнцыйным выпускнікам карысна вывучыць Палажэнне пра размеркаванне, заклапаціцца атрыманнем накіравання ці вырашыць, што яны будуць кампенсаваць вучобу ва ўніверсітэце грашыма. Тады ўжо да канца траўня можна будзе пачувацца размеркаваным і вольным. Хоць, адкрыта кажучы, рыхтавацца да размеркавання лепш загадзя, курсу з трэцяга: часта яно непасрэдна злучана з месцам, дзе вы будзеце праходзіць практыку.

**2. На колькі гадоў мяне размяркуюць?**

Калі вы скончылі ПТВ - на адзін год. Калі ССНУ ці ВНУ - на два. Калі вы аспірант - на тры. Але ёсць нюансы. Калі вы больш паловы тэрміна навучання ў ВНУ правучыліся на бюджэце (скажам, мінімум тры гады з пяці), прыйдзецца адпрацоўваць два гады. Гэта значыць, калі на апошніх курсах вы перавяліся на платнае ці завочнае аддзяленне, вас гэта не выратуе. З гэтага года ад вяртання дзяржаве абавязаку не пазбавіць і паступленне ў магістратуру. Раней размеркавання пасля магістратуры ў прынцыпе не існавала. Зараз прыйдзецца адпрацаваць таксама два гады.

**3. У выпускнікоў, якія ў спісах на размеркаванне займаюць першыя пазіцыі, ёсць якія-небудзь прывілеі?**

Так, такім выпускнікам падаюць большы выбар сярод атрыманых заявак. Даведацца пра прывілеі можна ў палажэнні Савета міністраў ад 23.09.2006 г. №1255.

**4. На што зважае камісія?**

У першую чаргу - на пасяховасць. Яшчэ адзначае, ці ўдзельнічалі вы ў навукова-даследчай працы. Глядзіць, дзе праходзілі вытворчую і пераддыпломную практыкі. Важныя стан здароўя, сямейнае становішча, месца жыхарства і рэкамендацыі ўстановы адукацыі пра найболей мэтазгоднае ваша накіраванне на працу. Жаданне выпускніка таксама, дарэчы, мае далёка не апошнюю ролю, хоць яго, вядома, разглядаюць у індывідуальным парадку.

**5. Калі арганізацыя дашле запыт менавіта на маё імя, мяне туды размяркуюць?**

Так. Калі вы трапляеце ў адну з трох катэгорый: вы ўключаны ў банк дадзеных адоранай моладзі; вы праходзілі вытворчую і пераддыпломную практыку ў гэтай арганізацыі; на вас не хапіла заявак ад арганізацый-замоўцаў.

**6. Вольны дыплом існуе? Я магу яго атрымаць?**

Так, ён існуе, афіцыйна ён завецца «права вольнага працаўладкавання». Каб яго атрымаць, трэба напісаць заяву і спадзявацца на тое, каб не хапіла заявак дзяржаўных структур.

**7. Як размяркоўваюць замужніх-жанатых?**

Жонак звычайна размяркоўваюць па месцы жыхарства ці працы мужа. Але трэба разумець, што дэканат не адсочвае ваша асабістае жыццё, так што калі вы жадаеце, каб гэта адбылося, трэба напісаць і падаць адпаведную заяву, сведчанне пра шлюб і прапіску мужа (на ўсякі выпадак майце з сабой даведку з яго працы, ксеракопію працоўнай кніжкі і дыплома з універсітэта). Калі абодва ў сям'і – маладыя спецыялісты, яны маюць такое права: муж можа размеркавацца па месцы працы жонкі, а жонка - па месцы працы мужа.

**8. Ці лічыцца служба ў войску размеркаваннем?**

Так! Ваенную службу і дэкрэтны адпачынак могуць залічыць у рахунак абавязковай адпрацоўкі, але толькі калі вы самі гэтага захочаце.

**9. Ці будуць у мяне, як у маладога спецыяліста, якія-небудзь прывілеі?**

Будуць, будуць! Вам паложаны прыемны дадатак у 10%, калі вы шчаслівы ўладальнік чырвонага дыплома ці вы будзеце працаваць у такіх патрэбных месцах, як агульнаадукацыйныя, спецыяльныя, дашкольныя, прафесійна-тэхнічныя, сярэднія спецыяльныя ўстановы адукацыі ці Рэспубліканскі цэнтр рэабілітацыі дзяцей дашкольнага ўзросту з парушэннямі слыху (шмат пра аплату напісана ў пастанове Савета міністраў ад 28.01.2009 г.)

**10. Ці магу я адпрацаваць няпоўны тэрмін?**

Не. Вы можаце скласці з працадаўцам якую заўгодна дамову, галоўнае, каб яна была не менш усталяванага мінімуму. Гэта значыць, што калі ваш кантракт доўжыцца тры гады, то два з іх вы адпрацоўваеце па размеркаванні, а трэці - проста так.




**Паводле: kp.by**

## АДНЫМ РАДКОМ

# У БЕРАСЦІ ПУСЦІЛІ “КАРАБЛІКІ СВАБОДЫ”

**Берасцейскія валанцёры кампаніі “Без візы”, пры падтрымцы АРР “Дзедзіч”, зладзілі акцыю “Караблікі свабоды”. Мерапрыемства прайшло на мясцовай набярэжнай імя Ф. Скарыны.**



Паўдзельнічалі ў кампаніі прыкладна 20 чалавек, сярод якіх былі нават малыя дзеткі.

“Дзедзіч” задаў некалькі пытанняў арганізатарам суботняга мерапрыемства.

**-Якія мэты жадаюць ажыццявіць валанцёры кампаніі “Без віз”?**

- У першую чаргу мы дамагаемся адмены візавага рэжыму з краінамі Еўрасаюза. А таксама адна з галоўных нашых мэт – гэта прыцягнуць увагу да праблемы існавання візавага пытання. Мы жадаем свабоды руху не толькі беларусаў, але і жыхароў Заходняй Еўропы, якія жадаюць прыехаць у нашу краіну.

**-Чаму менавіта “Караблікі свабоды”?**

- На адукацыйным семінары ў Гародні адзін з валанцёраў прапанаваў такую акцыю, і ўсім яна вельмі спадабалася, вось мы і вырашылі здзейсніць менавіта яе. Караблікі – гэта сімвал свабоды, таму што ім візы не патрэбны і яны могуць плыць, куды пажадаюць. На караблікаў красаваліся маленькія сцяжкі розных краін і кожны мог выбраць тую краіну, ў якую марыць паехаць. Берасцейцам пашанцавала – караблікі тэарэтычна маглі б трапіць у Польшчу. Але практычна атрымалася, што плынь была ў супрацьлеглы бок. Але гэта можна лічыць сімвалам таго, што, каб здзейсніць нашу мару і павандраваць без віз, трэба плыць супраць плыні і прайсці шмат перашкод.

**- Такая акцыя ладзіцца толькі ў Берасці?**

- Не. Падобныя акцыі прайшлі ў Менску і ў Гародні, таксама сёння.

**- Як простыя жыхары горада рэагавалі на вашы дзеянні, былі нейкія перапоны?**

- Усе рэагавалі з усмешкай, і ніякіх праблем не было. Адзін пенсіянер нават пачаў здымаць нас на мабільны тэлефон.

**- Дзякуй за такую цікавую акцыю, будзем чакаць ад Вас наступных мерапрыемстваў.**

Таксама мы папрасілі падзяліцца ўражаннямі ад акцыі ўдзельнікаў мерапрыемства:

- Акцыя прайшла вельмі файна. Мора станоўчых эмоцый! Вельмі добрая ідэя з караблікамі – пакуль рабілі іх, з'явілася нейкае забытае адчуванне з дзяцінства, калі ў лужынах запускалі караблікі. Ну а сам запуск караблёў са сцяжкамі на ваду проста і ясна сімвалізаваў свабоду выбару ў нашым “плаванні”. Усё вельмі спадабалася, валанцёры кампаніі “Без візы” малайцы, што сабралі нас усіх, паболей бы такіх добрых і цёплых акцый.

**dzedzich.org**

# АДКАСІЦЬ НЕ АТРЫМАЕЦЦА!

**У мінулым годзе на адпрацоўку па размеркаванні адправілася мінімальная за апошнія 6 гадоў колькасць выпускнікоў. Але бюджэтнікам «адкасіць» становіцца ўсё складаней.**



Летась студэнты мелі вялікі арсенал сродкаў сыходу ад размеркавання. Многія паступалі на бясплатныя аддзяленні, але ў час навучання пераводзіліся на платнае дзённае ці завочнае, альбо працягвалі навучанне ў магістратуры. У выніку колькасць выпускнікоў бюджэтных аддзяленняў дасягнула мінімуму з 2005 году. З больш чым 37 тысячаў студэнтаў, якія скончылі ў мінулым навучальным годзе ўніверсітэты, размеркаваць можна было толькі 19 290 выпускнікоў.

Хаця не апошнюю ролю грала моцнае падзенне набору на бясплатныя аддзяленні: калі ў 2005 годзе на платнае набіралі толькі на 10 тысячаў болей студэнтаў, чым на бюджэт, то праз пяць гадоў гэтыя суадносіны выраслі да 20 тысячаў не на карысць бюджэту.

Затое у 2011г. Мінадукацыі здолела прымусіць адпрацоўваць максімальны адсотак выпускнікоў.

Да таго ж, гэтым летам сысці ад размеркавання праз перавод з бюджэту ўжо не атрымаецца: паводле Кодэкса аб адукацыі прыйдзецца адпрацоўваць нават платнікам, якія правучыліся палову навучання на бюджэце.

Падпадае пад удар і іншы папулярны метад «адкосу» ад адпрацоўкі -- праз магістратуру. Такім метадам у 2011 годзе скарысталіся 1 048 выпускнікоў — болей за ўсё ў Менску. Аднак сёлета адпрацоўваць прыйдзецца і пасля магістратуры, нават калі яна была платнай (калі да гэтага студэнт навучаўся на бюджэце).

Апошняе, на што спадзяваліся звычайныя выпускнікі, якія не збіраліся аддаваць 2 гады на працу, якую падбірала яму кіраўніцтва ВНУ, — «вольны дыплом».

Права ўладкавацца на працу самастойна атрымалі ў мінулым годзе толькі 917 чалавек. Гэта 4.5% ад усіх тых, каго размеркаваць мусілі, што складае яшчэ адзін рэкорд 2011 году. Яшчэ за год да гэтага «вольныя дыпломы» атрымалі на 300 чалавек болей.

Яшчэ адзін варыянт, які падыходзіць найперш хлопцам — замест размеркавання адправіцца ў войска. Але летась служыць адправіліся толькі 2 сотні маладых людзей з ліку тых, каго адправілі на адпрацоўку пасля ВНУ.

А 100 чалавек проста зніклі — на адпрацоўку яны не з'явіліся і, верагодна, ім прыйдзецца выплочваць немалыя сумы сваім універсітэтам. Такім чынам, колькасць тых, хто адмовіўся адпрацоўваць, стала мінімальнай за апошнія гады — лічба раўнамерна падала з 2 221 чалавек у 2004 годзе да 182 у пазамінулым.

У выніку, у канцы 2011 году ў краіне 93% ад усіх выпускнікоў-бюджэтнікаў адправілі на прымусовую адпрацоўку.




Цяпер «адкасіць» ад размеркавання становіцца амаль не магчыма. Таму можна спрагназаваць, што па выніках 2012 году адправіць на прымусовую адпрацоўку атрымаецца яшчэ болей былых студэнтаў. Абітурыентам варта было б улічваць гэта пры абранні спецыяльнасці.

**generation.by**




# 10 СПОСАБАЎ НЕ ЗДАЦЬ ЦТ

**Ужо зусім хутка пачнецца рэгістрацыя абітурыентаў на праходжанне цэнтралізаванага тэставання і самі выпрабаванні. З года ў год некаторыя дзеці дапускаюць вельмі важныя і фатальныя памылкі.**



**1. Прапусціць апошні дзень рэгістрацыі.**

Пры любым раскладзе заўсёды знаходзяцца людзі, якія не ўпісваюцца ў зададзеныя ўмовы, таму што «не ведалі» ці «забыліся».

**2. Спазніцца на выпрабаванне.**

Калі маршрут «ад парога да іспыту» вам не вядомы, адрэпеціруйце яго ў вольны ад вучобы час.

**3. Забыцца пашпарт.**

Вядома, надзея разжаліць арганізатараў — «прапусціце, мама праз хвіліну падвязе» — памірае апошняй… Пакладзіце пашпарт побач з пропускам і чорнай гелевай асадкай.

**4. Прынесці мабільнік.**

Норма абвяшчае, што не толькі выкарыстоўваць, але і праносіць сродак сувязі на выпрабаванні забаронена. Вядома, на ўваходзе ніхто нікога не надглядае. Але, калі арганізатар убачыць забароненую прыладу, ён мае права без лішніх гутарак выдаліць удзельніка з аўдыторыі. Лепш пакіньце тэлефон у хаце, разам са шпаргалкамі.

**5.Памяняцца з суседам заданнямі.**

Кожны год знаходзяцца абітурыенты, якія выконваюць варыянт № 1, запаўняючы бланк адказаў варыянту № 2. Зразумела, правяраецца іх праца як варыянт № 2, і ў лепшым выпадку супадае пара нумароў адказаў.

Калі вы заўважылі неадпаведнасць нумароў варыянту і бланка адказаў падчас тэставання, паведаміце пра гэта арганізатару. Ваша заўвага будзе занесена ў пратакол, справядлівасць пераможа. Калі не заўважылі, наракайце на сябе: распісваючыся на бланку, вы пацвярджаеце, што азнаёміліся з правіламі яго запаўнення.

**6.Своечасова не здаць бланк адказаў.**

Школьныя аргументы "ой, яшчэ пяць секунд, дарабляю! " на тэставанні не прымаюцца. У выпадку адмовы здаць працу арганізатар паставіць на бланк штамп «Не прайшоў тэставанне».

**7.З'ехаць на спартовыя змаганні, не зарэгістраваўшыся на тэставанне.**

Вядома, федэрацыя спорту будзе прасіць старшыню дзяржаўнай камісіі дазволіць вам здаваць тэсты ў рэзервовы дзень: бо вы абаранялі спартовы гонар краіны! Але па правілах права здаваць тэсты ў рэзервовы дзень падаецца толькі пры наяўнасці рэгістрацыі на асноўны дзень.

**8. Карыстацца светлымі чарніламі.**

Арганізатары нездарма настойваюць на чорных стрыжнях: у гісторыі беларускіх выпрабаванняў быў прэцэдэнт, калі сканар «не ўбачыў» бледна-блакітных значкоў.

**9. Спрабаваць «адгадаць», выбудоўваючы з крыжыкаў зігзагі, ялінкі ці іншыя "пасьпяховыя" знакі.**

Абітурыенты мінулых гадоў спрабавалі таксама ва ўсіх заданнях выбіраць адказ пад адным нумарам ці адзначаць як правільныя ўсе адказы адразу. Нажаль, іх спробы прыцягнуць поспех на свой бок праваліліся.

**10. Верыць ва ўсемагутнасць рэпетытараў.**

Ніводны, нават самы прафесійны, рэпетытар не можа за паўгода даць тое, што выкладаецца ў школе на працягу некалькіх гадоў. Добра, калі ён дапаможа прывесці назапашаныя за школьныя гады веды у сістэму.

Будзьце ўважлівыя ці пажадайце гэтага сваім сябрам, якія яшчэ не сталі студэнтамі.

**Моладзевая платформа**

# ЧАРНОБЫЛЬ НЕ АДМЕНІШ

**Сёння часта гучаць сцвярджэнні, што галоўная і ледзь не адзіная шкода, нанесеная Чарнобылем здароўю жыхароў Беларусі, складалася ва ўздзеянні радыёактыўнага ёду, які выклікае рак шчытападобнай залозы. А паколькі гэты элемент распадаецца хутка, гэтай праблемы на сённяшні дзень ужо як бы і няма.**

"Чарнобыльскія аптымісты" таксама часта заяўляюць, што сувязі паміж якімі-небудзь іншымі хваробамі і ўздзеяннем Чарнобыля лекары так і не выявілі. Так што выходзіць, акрамя захварэлых ракам "шчытавідкі" ад Чарнобыля пацярпела адносна невялікая група людзей, якая складаецца галоўным чынам з ліквідатараў.

- *Такія высновы былі зроблены 6 гадоў назад, на 20-годдзе Чарнобыля*, - тлумачыць загадчык кафедрай радыяцыйнай гігіены і эпідэміялогіі Міжнароднага ўніверсітэта імя Сахарава прафесар Аляксей Акіянаў.

- *Яны грунтаваліся на дадзеных, адсунутых ад аварыі ўсяго на 15-20 гадоў. Шматлікіх саматычных эфектаў на той момант проста яшчэ не было. Напрыклад, шматлікія анкалагічныя захворванні маюць доўгі схаваны перыяд развіцця і могуць быць статыстычна выяўлены толькі праз 20-25 гадоў і пазней*.

Найболей верагодны ў гэты перыяд рост захворвання ракам малочнай залозы ў жанчын і ракам прастаты ў мужчын, анкалагічнымі захворваннямі органаў мочапалавой сістэмы.

- *Сёння мы толькі пачынаем назіраць эфекты Чарнобыля*, - папярэдзіў Акіянаў. - *І трэба вывучаць іх, каб мець магчымасць дапамагчы людзям, а не заяўляць, што галоўныя наступствы Чарнобыля ўжо прайшлі, і можна спакойна жыць далей*.

Прагнозы навукоўцаў, што прадказваюць рост выкліканых Чарнобылем онказахворванняў, ужо пачынаюць пацвярджацца. Фонд ААН у вобласці народанасельніцтва папярэджвае, што ў найбліжэйшыя гады верагодна павелічэнне захворвання ракам малочнай залозы сярод беларускіх жанчын.

Па дадзеных доктара-анколага Гомельскага абласнога клінічнага анкалагічнага дыспансера Дзмітрыя Радзько, у групу падвышанай рызыкі трапляюць жанчыны, якім на момант Чарнобыльскай катастрофы было ад 10 да 20 гадоў.

Паводле статыстыкі Беларускага канцэррэгістра, захворванне ракам малочнай залозы ў цэлым па Беларусі за апошнія 10 гадоў узрасло ў паўтары разы. У Гомельскай вобласці гэта сумная статыстыка павялічылася больш чым ў два разы.



# МЫ ГУБЛЯЕМ РАДЫЯЦЫЮ

**Калі верыць службоўцам, частка Чарнобыльскай зоны ўжо ачысцілася. Сама. Вось так пашчасціла, ці не праўда? У той час як у краінах, дзе калі-небудзь адбываліся радыяцыйныя ўцечкі, выдзяляюцца велізарныя сумы на аднаўленне і ачыстку гэтых тэрыторый, у беларускім чароўным краі чарговая анамалія - радыяцыя ЗНІКАЕ сама па сабе.**

Два гады таму з чарговага пераліку населеных пунктаў, змешчаных у зоне радыёактыўнага забруджвання, выключана 211 населеных пунктаў Беларусі.

У залежнасці ад ступені забруджанасці тэрыторыя падзяляецца на тры асноўныя зоны:

**«Зона пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем».** Гэта, мабыць, самая вялікая па ліку населеных пунктаў зона. І забруджана яна менш за ўсё.

**«Зона з правам на адсяленне».** Нават з назвы відаць: грамадзянам лепш адтуль з'ехаць. Але ў гэтай зоне населеных пунктаў не так ўжо і мала.

**«Зона наступнага адсялення».** У Беларусі іх дзве: адна ў Гомельскай вобласці, другая - у Магілёўскай. Гэтыя зоны самыя маленькія па ліку населеных пунктаў.

У новым пераліку больш сотні вёсак і мястэчак пераведзеныя ў зону з меншай забруджанасцю. Толькі па Брэсцкай вобласці са спісу зон пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем (самае мінімальнае забруджванне) выключаны 19 вёсак, 1 мястэчка і горад Давыд-Гарадок. Падобным чынам больш сотні вёсак і сёлаў памянялі сваю ступень забруджвання ў меншы бок, а некаторыя наогул выведзены з зоны радыёактыўнага забруджвання. Вось што значыць «беларускі цуд».

Зрэшты, як тлумачаць гэта самі службоўцы: *«За кошт натуральнага распаду радыёнуклідаў шчыльнасць забруджвання ў гэтых населеных пунктах стала дапушчальнай. Гэта дазваляе па законе лічыць іх не забруджанымі»*, - сцвярджае чыноўнік дэпартамента па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС Серафіма Кукіна. Таксама, па яе словах, штогод шчыльнасць забруджвання цэзіем-137, напрыклад, памяншаецца прыкладна на 2% .

Мімаволі закрадаюцца сумневы «пра валоданне пытаннем» тых, хто робіць такія выказванні. Вось што пра гэта кажа кіраўнік Кіеўскага кардынацыйна-аналітычнага Цэнтра экалогіі і здароўя, прафесар Юры Бандажэўскі: *«Калі на паверхні глебы лічыльнік не рэгіструе радыёактыўны цэзій, то гэта азначае, што радыёактыўныя элементы проста міграваліў тоўшчу зямлі і знаходзяцца на ўзроўні каранёвай сістэмы»*. Далей спецыяліст кажа пра трансфармацыю радыёактыўных элементаў у больш небяспечныя для здароўя людзей. Напрыклад, цэзій-137, распадаючыся, ператвараецца ў барый, а барый вельмі таксічны для арганізма чалавека. Людзі на ўмоўна чыстых тэрыторыях атрымліваюць яго з раслінамі і мясам жывёл.

Аднак чыноўнікаў пераканаць не атрымалася.

**Старонка падрыхтаваная паводле матэрыялаў часопіса «Мірны атам»**

## ЗОНЫ АДСЯЛЕННЯ - МАЛАДЫМ СПЕЦЫЯЛІСТАМ




**Сёння рыхтуюцца вялікія планы па засваенні забруджаных радыяцыяй тэрыторый.**

Два гады таму ўрад скараціў выдаткі на пераадоленне наступстваў катастрофы прыкладна на 24%.

Паводле праграмы ліквідацый наступстваў Чарнобыльскай АЭС на 2011-2015 гады і на перыяд да 2020 гады, гэтыя тэрыторыі плануецца засяліць, а таксама перайсці да іх устойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця, уключаючы мясную і малочную жывёлагадоўлю і насенняводства.

Па меркаванні чальца-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, старшыні грамадскага сацыяльна-экалагічнага аб'яднання «Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў» Івана Някітчанкі, забруджаныя радыёнуклідамі землі ніколі не будуць прыдатнымі для сельскагаспадарчага карыстання. *«Марная надзея, што распадзецца цэзій (а перыяд яго паўраспаду 28-30 гадоў), і больш нічога не будзе. Радыёнукліды, распадаючыся, пераходзяць з аднаго стану ў іншы, але радыёактыўныя ізатопы будуць усё адно»*, - падкрэслівае эксперт.

Навуковец дадае, што зусім чыстых земляў у нашай краіне няма. *«Дзе б чалавек ні жыў, ён атрымае з прадуктамі харчавання малую хранічную дозу радыяцыі. Мы назіралі людзей у 24 рэгіёнах, якія лічацца чыстымі. І ні ў адным з іх, уключаючы Менск, не было людзей, без хранічна набытых доз радыяцыі»*.

Тым не менш, улады маюць намер прыцягваць спецыялістаў на тэрыторыі радыёактыўнага забруджвання, газіфікаваць і будаваць тут аб'екты водазабеспячэння і ільготнае жыллё.

## РАДЫЯЦЫЯ: З ЧЫМ ЯЕ ЯДУЦЬ

Як заявіў начальнік дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС Валянцінаў Анціпенка, ў краіне цалкам выключаны выпадкі рэалізацыі праз дзяржаўны гандаль прадуктаў, забруджаных радыёнуклідамі.

Аднак незалежныя эксперты да такіх заяў ставяцца з насцярожанасцю. Яны звяртаюць увагу, што колькасць лабараторый радыяцыйнага кантролю ў краіне скарачаецца. Калі ў 1991 году ў іх было больш 725, то сёння ледзь набярэцца больш сотні.

У Менску «Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў» некалькі гадоў таму правёў рэйд на адным са сталічных прадуктовых рынкаў. Высветлілася, што толькі адзін прадавец меў сертыфікат, які пацвярджае радыяцыйную бяспеку тавара.

З тых часоў у Беларусі інфармацыя пра даследаванне харчовых прадуктаў станавілася ўсё больш закрытай. Аднак пра ўзровень небяспекі можна меркаваць па дадзеных, апублікаваным адмыслоўцамі з суседняй з Беларуссю Бранскай вобласці.

Іх даследаванне паказала: утрыманне цэзія-137 у грыбах і гадах, сабраных у памежных з Беларуссю раёнах, перавышае норму ў сотні разоў. Моцна забруджанымі апынуліся таксама мяса, дзічына і рыба. Радыёактыўнымі апынуліся і прадукты, выгадаваныя на асабістых падворках.

# БЕЛАРУСАМ ПАКАЗАЛІ ДЫКТАТУРУ

**Без сумневу, фільм "Галодныя гульні" у мясцовым пракаце варта было б забараніць. Хаця б за адну сцэну, дзе раз'юшаны натоўп, на які наступаюць шэрагі АМАПа з шчытамі і дубінкамі, ускідае над галовамі далоні з сімвалічнымі знакамі з пальцаў. Але – не забаранілі. Беларусы даведаліся пра тое, як выглядае дыктатура ва ўяўленні галівудскіх рэжысёраў. Камічна, недарэчна і зусім нястрашна.**

"Галодныя гульні" – фільм-сенсацыя, фільм-загадка. Нейкім цудам карціна не самага знакамітага рэжысёра, якая не мае зорак у акторскім саставе, карціна, на выраб якой было выдаткавана ўсяго $78 млн., стала самым паспяховым фільмам амерыканскага праката 2012г. Толькі за прэм'ерны ўікэнд яна сабрала 155 млн $. За усю гісторыю кінематографа толькі два фільма былі фінансава больш паспяховымі: "Гары Потэр" і "Цёмны рыцар" (фрагмент сагі пра Бэтмэна). Дык гэта "Гары Потэр"! Гэта "Бэтмэн"! А тут – экранізацыя кнігі не надта вядомай за межамі ЗША пісьменніцы Сьюзэн Колінз.

Па продажы квіткоў "Галодныя гульні" ўчыстую перамаглі фільмы, якія сталі брэндамі ў мас-культуры – "Код да Вінчы" і "Змярканне".

Праўда, у Менску, а тым больш, у Берасці, ажыятажу вакол квіткоў не было – ніякіх папярэдніх замоў, анлайн-даставак і продажаў месцаў у чарзе, што назіралася ў Амерыцы, тут не спатрэбілася. Скажам проста: беларусы сустракаюць "Галодныя гульні" абыякава. У залі сядзелі ў асноўным маладыя парачкі, якім галоўнае было знайсці цёмнае месца для невербальных зносін.

І вось фільм. Неяк знянацку на экране пачалі распавядаць пра мяцеж, пратэсты і іх задушэнні.




Словы "рэвалюцыя", "вулічныя беспарадкі " для беларускага вуха гучаць адметна. Іх можна ўспрыймаць з нянавісцю ці з асцярогай, але абыякава адносіцца да іх, будучы беларускім тэлегледачом, немагчыма.

А тут з экрана распавядаюць пра пратэсты ў Амерыцы будучыні, якія былі жорстка задушаны, стабільнасць – адноўлена, нацыя зноў аб'яднаная, але для гэтага апазіцыянерам давялося заплаціць жорсткую плату. Тыя населеныя пункты, якія калісьці паўсталі, пасля задушэння рэвалюцыі абавязаныя вылучаць па адной дзяўчыне і аднаму хлопцу для ўдзелу ў тэлешоў, дзе з 24 удзельнікаў ў выніку бойкі застаецца толькі адзін. Працэс смяротнай гульні ператвараецца ў маштабнае тэлешоў, за якім сочыць уся краіна.

Такім чынам, гэта фільм не пра дыктатуру. Гэта фільм пра тэлебачанне. Пра яго пошласць, безгустоўшчыну, пра яго дзікія правілы і атыгуманныя законы. Пра яго налепленыя вейкі і густы мэйк-ап.

Галоўных герояў – звычайную пару падлеткаў (вядома, закаханых), трэнеры вучаць быць "селебрыці". Галоўнае правіла – падабацца гледачам.

Складана сказаць, што адчувалі тыя, хто прыйшоў на сеанс "Галодных гульняў": калі яны шукалі "выціскання слёзаў" накшталт "Тытаніка", то гэтай ролі фільм не выканаў. Калі яны шукалі антытаталітарнага фільма, то ўражанняў, аналагічных "V значыць Вендэта" братоў Вачоўскі, карціна не пакінула. Некаторыя сюжэты з Інтэрнэта (напрыклад, пра задушэнне пратэстаў у Расеі) пакідаюць больш яскравыя антыўтапічныя ўражанні.

Што да "Галодных гульняў" як здзеку з тэлебачання, то, каб узрушыцца ў дзесяць разоў больш моцнымі эмоцыямі на гэты конт, беларусам дастаткова застацца дома і ўключыць адзін з мясцовых каналаў.

**Паводле: Віктар МАРЦІНОВІЧ, БелГазета**

# ПЯЦІГОДДЗЕ РАЗДЗЕЛА ВІКІПЕДЫІ

## НА АКАДЭМІЧНЫМ ПРАВАПІСЕ

**Найбольш дасведчаныя ведаюць, што беларускі моўны раздзел у Вікіпедыі мае два адгалінаванні: be і be-x-old. Першае прадстаўляе сукупнасць артыкулаў, напісаных на мове афіцыйным правапісам, другое - яшчэ шырэйшую сукупнасць на класічным варыянце беларускай мовы, альбо «тарашкевіцы». Першыя артыкулы па-беларуску бяруць свой адлік са жніўня 2004 г., а размежаванне вышэйназваных плыняў адбылося 5 гадоў таму - 27 сакавіка 2007 г.**

Менавіта з гэтай даты кіраўніцтва Фонду Вікімедыя перадало дамен be.wikipedia.org ў распараджэнне тых, хто стварае беларускія артыкулы на акадэмічным правапісе (тарашкевіцы) - Be-Wiki.

З той пары пайшло хуткае развіццё раздзела: кожны тыдзень ствараліся новыя артыкулы, вялікая перавага аддавалася такім тэмам, як грамадства, гісторыя, культура, беларусы, рэлігія, навука, прырода і тэхніка. Адначасова рабілася праца па сістэматызацыі і звязнасці артыкулаў.

Асабліва прыкметныя дасягненні беларускай Вікіпедыі адбыліся ў апошні час.

> У ЧЭРВЕНІ МІНУЛАГА ГОДА БЕЛАРУСКІ РАЗДЗЕЛ ПАДНЯЎСЯ НА ПЕРШАЕ МЕСЦА СЯРОД ІНШЫХ ВІКІПЕДЫЙ СВЕТУ ПА ТАКІМ КРЫТЭРЫ, ЯК ЗВЯЗНАСЦЬ.

Гэта азначае, што беларуская Вікі вылучаецца сярод іншых сваёй добра адпрацаванай сістэмай навігацыі, размеркаванасцю артыкулаў па асобных тэмах, выдатнай структурай, упарадкаванасцю, цэласнасцю. Вышэйшую прыступку па звязнасці наш раздзел трымае і дагэтуль.

З кастрычніка 2011 г. пачаў дзейнічаць праект «Добрыя артыкулы». Да добрых адносяцца тыя артыкулы, якія прайшлі пільную праверку на прадмет дакладнасці, нейтральнасці, паўнаты і стылю выкладання матэрыяла і былі абраныя ў лік добрых некалькімі ўдзельнікамі. У якасці прыклада можна прывесці артыкулы *«Зубр еўрапейскі»*, *«Стакгольм»*, *«Зоська Верас»*, *«Рака Проня»*, *«Беларускія народныя танцы»*.

Год таму запрацаваў догляд артыкулаў. Гэта значыць, што найбольш давераныя ўдзельнікі Вікіпедыі атрымалі статус даглядальнікаў, каб сачыць за дакладнасцю таго, што змяшчаецца на старонках Вікіпедыі.

21 сакавіка бягучага года колькасць артыкулаў у раздзеле be-wiki пераўзышла 40 тыс. артыкулаў. Гэта 65-ае месца сярод усіх 283 моўных раздзелаў Вікіпедыі на сённяшні дзень. Беларусы хутка даганяюць латышоў і албанцаў.

Колькасць актыўных удзельнікаў беларускай Вікіпедыі ў лютым дасягнула 256. Усе аўтары працуюць на добраахвотнай аснове: адны пішуць артыкулы, другія рэдагуюць і удакладняюць, трэція займаюцца сістэматызацыяй, чацвёртыя дадаюць выявы.

Разам з Вікіпедыяй развіваюцца і пабочныя Вікі-праекты: Вікіслоўнік, ВікіСховішча (фотаздымкі, аўдыё і відэа), Вікікрыніцы.




Апошні праект на мінулым тыдні адзначыўся яскравай падзеяй: у ноч з 27 на 29 сакавіка ён атрымаў свой асабісты пад-дамен - be.wikisource.org.

*Вікікрыніцы* - гэта бібліятэка арыгінальных тэкстаў мастацкай, навуковай, тэхнічнай, рэлігійнай літаратуры, якія знаходзяцца ў грамадскім набытку ці распаўсюджваюцца згодна з умовамі ліцэнзіі Creative Commons. Больш за 1.200 беларускіх тэкстаў размешчана на гэты дзень на Вікікрыніцах, і кожны чалавек можа зрабіць свой унёсак дзеля пашырэння інтэрнэт-бібліятэкі, таксама як і для развіцця ўсіх астатніх Вікі-накірункаў.

**Кампутарныя навіны**

# ВЕСНА В КАРПАТАХ

**Восьмого марта скучно сидеть дома и принимать цветы и подарки, лежа на диване, еще и с ноутом на коленках. Поэтому я решила встретить праздник немного необычно – в Карпатах!**

**Действующие лица**: *Валерка, Женька, Аленка, и я – Танька.*

**Маршрут**: *Торуньский перевал – озеро Синевир.*



Чтобы как-то развлечься в электричке, Женя предложил сыграть в речевку. Приехали мы в Ковель как раз, когда на арене появился голубой дракон, которого призвала цветочная фея. Каким знаковым для Аленки оказался этот выбор персонажа…

В Ковеле к нам подошли два парня. Узнали родной флаг у Аленки на рюкзаке, да и нашу колоритную «беларускую гаворку» ни с чем не спутаешь. Шли ребята на тот же маршрут, куда я ходила в мае – на гору Парашку. Хорошо одеты и обуты, снегоступы привязаны к рюкзакам, видно, что готовились. Мы же производили впечатление наивных аборигенов.

- А где ваши лыжи? – спросили минские.

- Эм…Лыжи? А нафига они нам?

- И снегоступов у вас нет…

- Нету.

- А как же вы вот так, там же снега по пояс, – они были в шоке.

- Ну, вот как-то так…

Поезда в Украине всегда выносили мне мозг, но на этот раз нам повезло: были места поспать, даже всем хватило. «Наши» парни оказались опять нашими соседями, и мы проболтали еще с полночи.

- Так вы правда без снегоступов идете?

- Ага.

- Да вы же ненормааааальные (истинного слова не пропустила цензура)….

Когда я не знаю, что отвечать я обычно просто улыбаюсь и отворачиваюсь. Ребята сунули шоколадку, поздравили с Восьмым марта и ушли в дремоту на пару часов. До Львова оставалось часа три.

Утро нагрянуло незаметно, – вот просто взял, закрыл глаза, через секунду открыл – и уже приехали.

Автобус на Хуст, который должен был отвести нас аккурат на Торуньский перевал, уже ждал. В автобусе к нам пристал местный парнишка Ваня, с большим и классным мобильником, и всю дорогу заливал, какие змеи у них водятся, и как они опасны. Валера на всякий случай взял его номер телефона, знакомые в Хусте нам не помешают.

Торуньский нас уже ждал. Дорожка была протоптана, и мы бодренько затопали, даже песню запели. Шагать было хорошо, легко и радостно. Начали путь уже с 900 метров, так что сразу же виды нам открывались красивейшие.

ОСОБО ЭПИЧЕН БЫЛ МОМЕНТ, КОГДА ВАЛЕРКА СО СЛОВАМИ «А ЧТО ЭТО ЗА БРЕВНЫШКИ ТОРЧАТ?» ШАГНУЛ В СТОРОНУ ОТ ТРОПИНКИ И УШЕЛ ПОД СНЕГ ПО САМУЮ ГРУДЬ: БРЕВНЫШКИ ОКАЗАЛИСЬ ЗАНЕСЕННЫМ СНЕГОМ ЗАБОРОМ.

Мы протопали еще с километр и наткнулись на два домика, местные возились с соломой, а мы стали на распутье тропинок. Мы с Аленкой установили матриархат и отправили мужиков на переговоры. Мужики вернулись не в духе - мы пошли не в ту сторону совершенно. Пришлось возвращаться назад. Причем местные настаивали на совсем «назад», домой то бишь. Ибо снегу по пояс и без лыж или снегоступов нам там не пройти. Кто ж знал, что слово «по пояс снега» - это не преувеличение…

Я осознала всю прелесть треккинговых палок: с ними гораздо легче выбираться. Спасибо Аленке, которая мне их отдала на все время маршрута. А вообще, ей они действительно не были нужны, Аленка порхала над снегом, как фея, едва касаясь его ногами в тех местах, где я проваливалась по колени.

К вечеру дошли до ночевья, по дороге уловили следы снегоступов, они и привели. Место классное: яма для костра выкопана, места под палатки расчищены. В общем – рай. Надо было быстро разжечь костер, ибо мокрые вещи мгновенно покрывались корочкой и дубинели. Топор у нас был самым тупым в мире, но он хотя бы был. Впрочем у нас была еще и гитара…

Утром оказалось, что еды мы с собой взяли как на неделю, пришлось оставить в домике хороший такой набор провианта. Люди, которые это найдут, могут дня два прожить. Написали записку, положили в пакетик. Надеюсь, волки не съедят.

Наутро дорога оказалась еще сложнее, чем вчера. Вообще, каждый раз, когда думала, что хуже уже некуда, хуже всегда находилось. Хорошо хоть по дороге встретился ручей, напились на славу, хотя и топленый снег придавал колориту. Солнце жарило, как августовское.В общем, было тяжко. Через пару часов вышли на хорошую тропу, проваливаться практически перестали. Красотень стояла неописуемая, как на новогодних открытках.

В последний день в горах все шли быстро и легко, хотелось успеть выйти в цивилизацию, чтобы не оставаться еще на одну ночь.

На горизонте показались домики, значит, шли мы верно. При виде этой самой цивилизации стало как-то не по себе. Хотелось высушиться, помыться и податься обратно. Из озера сделали туристический пункт: тут тебе и лошади в телегах, и сувениры, и поесть-напиться…

Мы вернулись в цивилизацию, чтобы покушать и выпить чаю. Подняли кружки за горных духов (не знаю, если ли они на самом деле, но то, что они нас хранили – это точно). Дяденька из «Сувениров» любезно предложил нам машину на обратный путь. За о-очень большие бабки. Но, как оказалось, выбора у нас не было.

В машине ехали долго, на свою электричку мы уже опоздали, так что терять было нечего, можно было развалиться на заднем сиденье и любоваться горами.

Через часа два в Воловце увидели, что стоит какая-то электричка – оказалось, наша. Будто нас ждала. Успели только рюкзаки закинуть, как она тронулась. Разумеется, проводник не преминул наварить на цене билета.

Люди от нас шарахались, от нас разило костром, да и вид был не весьма презентабельным в сравнении с чистенькими и яркими сноубордистами. Вскоре нас начали снимать на мобильник. Точнее не нас, а наши рюкзаки, поскольку в паре сантиметров от Валеркиной головы из рюкзака свисал топор, прямо острием на его макушку. Валера категорически отказывался менять его местоположение, и люди вокруг нас потихоньку рассасывались.

Во Львове мы встретили наших минчан, подошло ко мне что-то небритое и сказало: « *О Господи! Белорусы, да вы живы! А мы за вас так переживали!*». А я буркнула что-то в ответ и пошла в вагон. Зашла и… обомлела. Табор цыган, деревянные сидения, вонь жуткая, кучка велосипедистов пытаются приютиться, бабки, дети. Не хватало только для полной картины веревок с бельем. Мы решили, что лучше простоим ночь в тамбуре, чем еще раз туда зайдем.

Отправили Валеру на переговоры к проводнику плацкарта, договорились за отдельную плату приютиться у него. Мест нам досталось всего 3, на верхних боковых полках. Надо было ложиться спать только троим, поэтому не лег никто. Решили болтать, пока не освободится еще одно место.



Время до Бреста прошло в полудреме, сменили две электрички, болтали, смеялись. На границе пограничники над нами поиздевались. Не думали, что мы тут живьем появимся. В Беларуси царила непогода, мокрый снег с дождем и сырость…

**Мільва**

# МОВЫ, ЯКІЯ ВЫЖЫЛІ

**Беларуская мова – не адзіная ў свеце, якой давялося перажываць цяжкія часы. Шматлікія народы забывалі сваю мову і адмаўляліся ад яе, змагаліся за яе і адраджалі як неабходны чыннік нацыянальнай незалежнасці.**

## КАЛІ НАРОДЫ ПАЛЮБІЛІ МОВУ?

**Чаму краіны надаюць моўнаму пытанню важную ролю, звязваючы паняцці "мова" і "народ"? І ці заўсёды так было?**

У старажытнай гісторыі міграцый, войнаў і саюзаў мова народаў не выконвала значнай палітычнай ролі. Ваенная перамога не заўсёды прыводзіла да распаўсюджвання мовы пераможцаў. І на працягу шматвяковай гісторыі у многіх дзяржавах выкарыстоўваліся чужыя мовы.

Пасля разгрому Рымскай імперыі германцамі лацінская мова яшчэ шмат стагоддзяў заставалася адзінай мовай пісьменства і культуры ў Еўрапейскіх краінах. Некаторыя з іх нават цалкам адмовіліся ад сваёй мовы і пачалі размаўляць на мясцовым варыянце лацінкі - так узніклі раманскія мовы: французская, гішпанская, партугальская, румынская...

У Сярэднявеччы правілі баль сусветныя рэлігіі. Народы аднаго веравызнання стваралі асобны культурны свет, са сваімі святымі кнігамі і культавай мовай. У такой сітуацыі амаль паўсюль існавала двухмоўе: адна мова – мясцовая – была размоўнай, побытавай, "нізкай", другая – надэтнічная – мовай рэлігіі, пісьменства і высокай культуры (лацінская, старажытнагрэцкая, царкоўнаславянская, арабская, санскрыт, вэньянь).

Амаль да XIX стагоддзя мова не ўсведамляецца як важны сімвал народа і дзяржавы, з мовамі не звязвалася паняцце пра радзіму, незалежнасць, патрыятызм.

*У XVIII стагоддзі па ўсёй Еўропе шырока распаўсюджваецца французская мова. Яна была прынятая пры дварах Польшчы, Аўстрыі , Венгрыі, нямецкіх герцагстваў. У канцы XVIII – пачатку XIX французская актыўна ужываецца ў дваранскім асяроддзі Расійскай імперыі. Падчас вайны з Напалеонам расейскія часопісы друкавалі артыкулы ў падтрымку патрыятычнага духу на французскай мове.*

Становішча змянілася пасля распаўсюджвання ідэй Французскай рэвалюцыі і нямецкай філасофіі, якія злучылі паняцці "народ" і "дзяржава". Рэвалюцыя адмяніла аснову феадальнага ладу – саслоўі. Яна знайшла новы пачатак, здольны злучыць краіну ў несаслоўнае грамадства – "нацыю".

У мове пачалі бачыць фактар згуртавання народа, гістарычнае змацаванне пакаленняў, якое адлюстроўвае адметнасць народа. Мовы "абвяшчаліся" нацыянальнымі і мелі істотнае значэнне ў нацыянальна-вызваленчых рухах XIX стагоддзя, у выніку якіх з'явіліся *Нідэрланды, Нарвегія, Італія, Балгарыя, Румынія.*

## СЛОВА ЗА СЛАВЯНАМІ

**Драматычную гісторыю нацыянальнага вызвалення і здабытку нацыянальнай мовы перажылі амаль усе славянскія народы.**

Пачатак **харвацкай мовы** звязаны з аддзяленнем яе ад *"ілірыйскай"* мовы, нібыта агульнай для харватаў, сербаў і славенцаў. У Харватыі існавалі палітычныя сілы, якія імкнуліся аб'яднацца з сербамі, у 1850г. была заключаная дамоўленасць аб адзінай літаратурнай мове. Праз 100 гадоў, са з'яўленнем Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславія, было пацверджана, што мова сербаў, харватаў і чарнагорцаў – адзіная мова, яна атрымала назву сербскахарвацкай.

Прадстаўнікі інтэлігенцыі Харватыі актыўна змагаліся з палітыкай моўнага аб'яднання. Насуперак уладам галоўная установа харвацкай культуры "Маціца харвацкая" (Matica hrvatska) адмовілася скончваць працу над "Слоўнікам сербскахаврвацкай літаратурнай і народнай мовы", якая пачалася за 10 год да таго. Гэта быў рашучы крок супраць палітыкі асіміляцыі. Неўзабаве ў краіне падняліся палітычныя хваляванні з патрабаваннем большай аўтаноміі Харватыі, якія атрымалі назву "Харвацкая вясна".

> ПАДРУЧНІК ПА ХАРВАЦКАЙ ГРАМАТЫЦЫ, СКЛАДЗЕНЫ ЗНАКАМІТЫМІ ЛІНГВІСТАМІ, БЫЎ ЗАБАРОНЕНЫ УЛАДАМІ, АЛЕ БЫЎ НАДРУКАВАНЫ Ў ЛОНДАНЕ І ДА ГЭТАГА ЧАСУ ЛІЧЫЦЦА СТАНДАРТАМ МОЎНЫХ НОРМАЎ.

***

**Славенская мова** таксама была вымушаная адстойваць свае правы на існаванне, нягледзячы на сваю даўнюю і багатую гісторыю. Манускрыпт "Brizinski spomeniki" на славенскай мове, напісаны на мяжы X і XI ст, – адзін з старэйшых помнікаў славянскай пісьменнасці. Тым не менш, пасля ўваходу славенскіх земляў у склад Аўстра-Венгерскай імперыі мова славенцаў ужывалася толькі ў гаворцы простых людзей.

Але нават і гэтую гаворку адмаўляліся лічыць славенскай. Яе таксама ўпісалі ў "*ілірыйскую*". У сярэдзіне XIX стагоддзя жыхары славенскіх земляў, каб даказаць асобнасць сваёй мовы ад харвацкай, пачалі імкнуцца падкрэсліваць дыялектныя адрозненні гэтых роднасных моў і наўмысна пазбягалі выкарыстоўвання аднолькавых элементаў. Да таго ж славенцы адмаўляліся ад нямецкіх запазычанняў і нямецкіх назваў свайго народа і сваёй мовы, якія лічыліся абразлівымі, – *Windischer, windische Sprache*, г. зн. "*венды*", "*мова вендаў*". Уласнай назвы свайго народа яны не мелі, і толькі ў межах нацыянальна-вызваленчага руху XIX стагоддзя патрыёты адрадзілі тэрмін, забыты шмат вякоў таму, - *slovenski jezik*. Славенская мова пачала зноў існаваць, але незалежнасць Славенія атрымала толькі у 1991 годзе.

***

**Украінская мова**, як і беларуская і расейская, у сярэднявечча існавала ў якасці "простай" рэгіянальнай мовы, у адрозненні ад "высокай" стараславянскай. У XIX стагоддзі з ростам нацыянальнай свядомасці годнае стаўленне да ўкраінскай мовы ўзрастае. У гэты ж час канчаткова прымаецца тэрмін "украінская мова", бо назва "рус(ь)ка мова", якой украінцы карысталіся з часоў Кіеўскага княства, замацавала за сабой Расейская імперыя.

Тэрыторыя Украіны да пачатку XX стагоддзя была падзеленая на дзве часткі. На землях у складзе Расійскай імперыі ўкраінская мова была забароненая ў школах, дзяржаўных установах і публіцыстыцы. Развівалася яна, акрамя жывой гаворкі, толькі ў мастацкай літаратуры – творах Івана Катлярэўскага, Тараса Шаўчэнкі, Лесі Украінкі і інш.

У Галіцыі, што ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі, моўная палітыка была больш ліберальнай: у пачатковых школах навучанне вялося на ўкраінскай мове. У Львове былі украінскія гімназіі, ў Львоўскім універсітэце – кафедра ўкраіністыкі. Таму заходнеўкраінскі варыянт літаратурнай мовы развіваўся больш актыўна – не толькі ў мастацкіх творах Івана Франко, Васіля Стэфаніка, Леся Мартовіча і інш., але і ў газетах і часопісах, навукова-папулярных жанрах, гісторыка-філалагічных даследаваннях.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Украіны ў 1918 годзе вялася актыўная палеміка наконт кіеўскіх і львоўскіх моўных нормаў. Аддзеленая палітычна мяжой, заходнеўкраінская мова значна паўплывала на мову новай краіны.

Сёння ўкраінская мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай мовай Украіны.

***

Беларусь сярод кагорты маленькіх, але ганарлівых славянскіх краін, якім давялося змагацца за права існаваць і размаўляць на сваёй мове, выдзяляецца тым, што яе мова сёння знаходзіцца пад пагрозай вымірання.

**Альбіна ТРУС**

**P.S. Мы будзем працягваць тэму "Мовы, якія выжылі". У наступным нумары чытайце пра мовы краін, якія перажылі каланіяльную экспансію.**



TELEGRAM

DEKLARACIJA O NAZIVU I POLOŽAJU HRVATSKOG KNJIŽEVNOG JEZIKA

STRANICA 3: ZA JEDNU KOMPLEKSNIJU OCJENU

STRANICA 5: MIR, HUMANOST I PRIJATELJSTVO MEĐU NARODIMA

STRANICA 6: NESPORAZUM NAD ORANICOM

3071-3-273

Ovih dana navršilo se deset godina od smrti istaknutog jugoslavenskog revolucionara, slikara i novinara Moše Pijade (1. I 1890 - 15. III 1957). Tim povodom redakcija „Telegrama" objavljuje jedan manje poznat razgovor s Mošom Pijade o njegovu slikarstvu

Прыняццё "Дэкларацыі аб назве і становішчы харвацкай літаратурнай мовы" ў 1971г. лічыцца пачаткам руху за аўтаномію Харватыі



Карціна У. Стэльмашонка «Слова пра Беларусь»

# НКУС СУПРАЦЬ РАДЗІВІЛАЎ

**Апошні з Радзівілаў, які жыў у Нясвіжскім палацы, быў арыштаваны маёрам НКУС і выратаваны італьянскай каралевай.**

18 снежня 1935 года памёр перадапошні XVI Нясвіжскі ардынат Альбрэхт Антоні Радзівіл. Замак і радавыя зямельныя ўладанні атрымаў у спадчыну яго малодшы брат Леон Уладзіслаў Радзівіл.

Леон нарадзіўся ў 1888 годзе ў Патсдаме. З адзнакай скончыў Імператарскі Пажаскі корпус у Пецярбургу ў 1909-м і паступіў на службу ў Прэабражэнскі полк. З пачаткам Першай сусветнай вайны будучы апошні ўладальнік Нясвіжскага замка, які дасканала валодаў польскай, рускай, нямецкай і італьянскай мовамі, паступіў на службу ў Аддзел замежных спраў генеральнага штаба Рускай імператарскай арміі і праслужыў там да кастрычніцкай рэвалюцыі. 5 ліпеня 1917 года за службу ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3 ступені.

Праз некалькі гадоў, у маі 1919 года, Леон Радзівіл уступіў у польскую армію. Улічваючы вопыт службы ў рускім генеральным штабе, маладога князя накіроўваюць у палітычны аддзел Галоўнага камандавання польскай арміі. Праз некалькі месяцаў князь пераходзіць у Другі (выведвальны) аддзел Генеральнага штаба польскага войска. Нарэшце, у 1920 годзе князя Радзівіла накіроўваюць у распараджэнне французскай вайсковай місіі, дзе ён атрымлівае званне капітана французскай арміі.

Радзівіл адразу ж адпраўляецца ў Італію. Там ён арганізуе адпраўку ваеннапалонных палякаў, якія раней служылі ў аўстра-венгерскай арміі, на тэрыторыю Францыі для арганізацыі з іх польскага ваеннага легіёна. У асабістай справе князя, якая захоўваецца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, у прыватнасці пазначана, што на працягу 7 месяцаў Леон Радзівіл арганізаваў адпраўку ў Францыю 30 тысяч салдат і 3 тысяч афіцэраў польскага паходжання. Усе гэтыя вайскоўцы пасля ўступілі ў польскую армію. За паспяховае выкананне задання французскага камандавання князь Радзівіл быў узнагароджаны ордэнам ганаровага легіёна. А ўжо ў Польшчы, у 1922 годзе за выкананне гэтай місіі Леону ўручылі польскі крыж «Віртуці Мілітары» 5-й ступені.

Пасля савецка-польскай вайны князь Леон звольніўся з войска і заняўся мецэнацтвам. З 1935 года ён практычна ўвесь час жыў у Нясвіжскім замку. Там жа яго заспела і Другая сусветная вайна.

Старадаўняя рэзідэнцыя беларускіх князёў стала прытулкам для многіх бежанцаў «блакітных» крывей, якія пакінулі акружаную гітлераўскімі войскамі Варшаву.

ГЕНЕРАЛЫ, АФІЦЭРЫ, ПРАДСТАЎНІКІ ГРАМАДСКАЙ І ПАЛІТЫЧНАЙ ЭЛІТЫ — УСЕ ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ РАЗЛІЧВАЛІ НА ТОЕ, ШТО СТАРАЖЫТНЫЯ МУРЫ НЯСВІЖСКАГА ПАЛАЦА АБАРОНЯЦЬ ІХ АД ВАР'ЯЦТВА ВАЙНЫ.

Нарэшце 17 верасня 1939 года ў замак прыбылі чырвонаармейцы. Адным з тых, хто прыйшоў за князем, быў і карэспандэнт газеты «Праўда». Вось як ён апісваў арышт Радзівіла: *«Марш савецкіх войскаў быў настолькі імклівым, што многія польскія паны і памешчыкі не паспелі збегчы. У цэнтры горада мы занялі будынак, дзе раней знаходзілася кіраванне маёнткамі князя Радзівіла. Той, хто бачыў прыходныя кнігі князя, можа ўявіць сабе велізарныя багацці, якімі ён валодаў. Гэтаму чалавеку належалі дзясяткі тысяч гектараў зямлі, і вялікая колькасць жывёлы. [...]*

*У селяніна-беларуса мы спыталі, дзе замак князя. Селянін сеў у наш аўтамабіль і ўпершыню ў жыцці як гаспадар заехаў у княжацкі парк. Мы з маёрам Грыдневым, мякка ступаючы па дыванах, разасланых па лесвіцах, падняліся на другі паверх замка. У гасцінай нас сустрэў нейкі польскі журналіст, уцякач з Варшавы. [...] З розных пакояў пачалі выходзіць у гасцёўню важныя чыноўнікі былой польскай дзяржавы. На грудзях у іх былі ордэны і медалі. [...] У гасціную выйшла жонка польскага генерала, якая збегла з Варшавы. Нарэшце з'явіўся князь Леў* (так у тэксце артыкула — І.М.) *Радзівіл. Мы папрасілі здаць зброю. З розных пакояў прынеслі браўнінгі, маўзеры, паляўнічыя ружжы. [...] У замку Радзівіла — вялізныя багацці. Тут маецца вялікая бібліятэка, калекцыя разнастайнай зброі, карціны знакамітых еўрапейскіх майстроў жывапісу».*

Арышт князя праводзіў маёр дзяржбяспекі Вячаслаў Грыднеў. Гэты чалавек зрабіў паспяховую кар'еру ў савецкіх спецыяльных органах, прайшоўшы шлях ад упаўнаважанага ЧК да начальніка вышэйшай разведвальнай школы МГБ СССР. Падчас вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года Грыднеў быў накіраваны «на захад» у якасці начальніка аператыўнай групы НКУС БССР. За арганізацыю аперацыі па арышце князя Леона Радзівіла, а таксама іншых высокапастаўленых польскіх чыноўнікаў у Нясвіжскім замку маёр дзяржбяспекі быў узнагароджаны ордэнам «Баявога Чырвонага Сцяга». Пазней Грыднеў быў прызначаны начальнікам Ваўкавыскага гараддзела НКУС.



**Лявон Радзівіл падчас польска-савецкай вайны 1920 года**

Князя Леона Радзівіла з сям'ёй і іншых арыштаваных у замку мужчын вывезлі зпачатку ў Менск, у турму НКУС, а затым на Лубянку. Хутчэй за ўсё, у савецкіх спецслужбаў быў план выкарыстання ўплывовага беларускага магната ў сваіх мэтах. Берыя і яго падручныя добра ведалі аб той ролі, якую адыгрывалі Радзівілы ў перадваеннай Польшчы. Сам князь таксама разумеў, што выбар у яго невялікі: альбо ён ідзе на супрацоўніцтва з савецкай выведкай, альбо... у савецкіх улад было дастаткова падстаў, каб пазбавіць былога памешчыка жыцця.

Апошняга нясвіжскага ардыната выратавала знаёмства яго маці Марыі Ружы з Браніцкіх з сям'ёй італьянскага манарха. У маладосці княгіня Браніцкая вяла актыўнае свецкае жыццё. Дыпламаты, мастакі, інтэлектуалы, прадстаўнікі манаршых родаў — маладая дваранка тады і не ўяўляла, што гэтыя знаёмства выратуюць ёй і яе родным жыццё.

ПРА ТОЕ, ШТО СЯМ'Я ЛЕОНА РАДЗІВІЛА ЗНАХОДЗІЦЦА НА ЛУБЯНЦЫ, СТАЛА ВЯДОМА КАРАЛЕВЕ ІТАЛІІ АЛЕНЕ ЧАРНАГОРСКАЙ, І ТАЯ ЗВЯРНУЛАСЯ ЗА ДАПАМОГАЙ ДА МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ІТАЛІІ ГАЛІЯЦА ЧЫАНА. УРЭШЦЕ ДА ВЫРАШЭННЯ «ЛЁСУ РАДЗІВІЛАЎ» ПАДКЛЮЧЫЎСЯ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ІТАЛІІ БЕНІТА МУСАЛІНІ.

У выніку разыгранай камбінацыі Радзівіла ўдалося абмяняць на італьянскіх камуністаў, якія ўтрымліваліся ў турмах фашысцкай Італіі. Пагаворвалі, што сярод вызваленых тады камуністаў быў і знакаміты Пальміра Тальяці.

Апошні нясвіжскі ардынат князь Леон Радзівіл разам з роднымі выехаў спачатку ў Італію, а затым у Англію. Знаходзячыся ў Еўропе, ён цалкам адышоў ад актыўнага грамадскага жыцця і ўсю Другую сусветную вайну правёў на туманным Альбіёне. Пасля вайны Радзівіл пераехаў у Парыж, дзе ціха памёр вясной 1959 года. Нясвіж і радавы замак ён так больш і не ўбачыў.

**Ігар Мельнікаў, кандыдат гістарычных навук, газета «Новы час»**



**Першы злева - Лявон Радзівіл**

# ЭТЫЧНАЯ МОДА

## ПРЫРОДА БЛІЖЭЙ ДА ЦЕЛА

**Як толькі не прадстаўлялі адзенне будучыні ў фантастычных фільмах: гэта і скафандры, і цэлафанавыя камбінезоны, і металічныя "даспехі". Але развіццё сучаснай моды падказвае, што ў будучым людзі абяруць вопратку з прыродных матэрыялаў, выраблены па традыцыйным тэхналогіям.**



### ДЭТАКСІКАЦЫЯ МОДЫ

Ужо сёння экалагічнасць з'яўляецца модным трэндам. Nike выпускае красоўкі з перапрацаваных пластыкавых бутэлек, а H&M шчыра інфармуе сваіх пакупнікоў пра змест шкодных хімічных рэчываў у сваіх матэрыялах.

А пачалося ўсё з таго, што у мінулым годзе "Грынпіс" выявіў сувязі некалькіх fashion-рытэйлераў з фабрыкамі, якія забруджваюць рэкі Кітая. Было праведзенае даследаванне, якое пацвердзіла наяўнасць ў прадукцыі гэтых кампаніяў наніфенол–этаксілатаў (таксічных рэчываў).

У ГАНЕБНЫ СПІС ТРАПІЎ ГІГАНТ CAUSAL-ІНДУСТРЫІ, ДРУГІ ПА ВЕЛІЧЫНІ РЫТЭЙЛЕР АДЗЕННЯ H&M І БУЙНЕЙШЫЯ ВЫТВОРЦЫ СПАРТОВАЙ ВОПРАТКІ – NIKE, ADIDAS І PUMA.

Выбухнуў скандал. "Грынпіс" распачаў дэтокс-кампанію, заклікаючы фэшн-індустрыю адмовіцца ад тэхналогій, што забруджваюць навакольнае асяроддзе. H&M згадзіўся абнародаваць дадзеныя пра ўсе хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюць іх дастаўляльнікі пры вытворчасці матэрыялаў. Лідары рынка спартовай моды далучыліся да дэтокс-руху і абавязаліся выключыць небяспечныя рэчывы з усіх ланцугоў вытворчасці да канца 2020 года.

Акрамя "раззбраення" вытворчасці, свядомыя кампаніі актыўна практыкуюць выкарыстанне другасных матэрыялаў, каб паменшыць колькасць смецця на планеце і сэканоміць прыродныя рэсурсы.

Кампанія Nike пачала выпрабляць форму клубаў "Спартак" і "Зеніт" з перапрацаваных пластыкавых бутэлек. Вытворчасць уключае збор бутэлек, ачыстку і пераплаўку. У 2010 годзе кампаніяй было выкарыстана больш за 13 мільёнаў бутэлек.

### ФЭШН-ЭТЫКА

Вы набылі бавоўняную кашулю і упэўнены, што ваша цела будзе свабодна дыхаць, а душа цешыцца з таго, што вы аддалі грошы за натуральную рэч, вытворчасць якой не нашкодзіла навакольнаму асяроддзю? Дарма!

ШТОГОД У СВЕЦЕ АД АТРУЧВАННЯ ПЕСТЫЦЫДАМІ НА БАВАЎНЯНЫХ ПЛАНТАЦЫЯХ ПАМІРАЕ 28.000 ЧАЛАВЕК. БОЛЬШ 10% ВЫРАБЛЕНЫХ ПЕСТЫЦЫДАЎ ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЬ ПРЫ ВЫРОШЧВАННІ БАВОЎНЫ, А ГАТОВЫ МАТЭРЫЯЛ АПРАЦОЎВАЕЦЦА ХІМІЧНЫМІ РЭЧЫВАМІ ДЛЯ ГЛАДКАСЦІ, АДБЕЛЬВАННЯ І АФАРБОЎВАЕЦЦА НЕБЯСПЕЧНЫМІ ФАРБАМІ.

З ваўнянымі рэчамі падобная сітуацыя – толькі 0,0008% жывёльных матэрыялаў не апрацоўваецца хімікатамі.

Свядомае грамадства цывілізаванага свету праяўляе занепакоенасць такім становішчам. На што ужо адгукнуліся шматлікія фірмы і пачалі прытрымлівацца экалагічных і этычных нормаў пры вырабе вопраткі. Рэчы яны робяць выключна з прыродных матэрыялаў. Пастаўляюцца матэрыялы спецыяльнымі эка-фермамі, дзе вырошчваюць расліны і жывёлу без выкарыстання хімічных угнаенняў, генетычных і гарманальных стымулятараў.

Такія рэчы карысныя для цела і бясшкодныя для дзяцей і алергікаў. Але аматары экалагічнай моды клапоцяцца не толькі пра свой дабрабыт, але пра дабрабыт усёй планеты. Вытворчасць нельга назваць этычнай, калі фабрыка выкарыстоўвае паліўную энергію і выкідае ў атмасферу газы. Таму эка-фрэндлі-прадпрыемствы карыстаюцца альтэрнатыўнымі крыніцамі энергіі. Тую ж увагу надзяляюць і лагістыцы – транспарт не павінен забруджваць атмасферу. Вытворцы абавязваюцца інфармаваць сваіх пакупнікоў пра выкарыстанне рэсурсаў на прадпрыемствах, колькасць смецця і рэальны адсотак афарбовак і шкодных рэчываў. Яскравым прыкладам празрыстай палітыкі можа служыць кампанія C&A.

І самае галоўнае – этычныя вытворцы клапоцяцца пра годныя ўмовы працы на сваіх прадпрыемствах. Вядома, што многія фірмы маюць фабрыкі на тэрыторыі краін трэцяга свету і карыстаюцца бяспраўным становішчам тамтэйшых людзей. Эка-фрэндлі-прадпрыемства мусіць выконваць асноўныя палажэнні працоўнага права цывілізаваных краінаў. А таксама супрацоўнічаць толькі з тымі фірмамі, які абяцаюць не парушаць нормаў.

Эка-вопратка з-за асаблівасцей вытвочасці сёння даволі дарагая. Але з пераходам большасці брэндаў на зялёныя рэйкі канкурэнцыя ў гэтай сферы пабольшыцца, ды і тэхналогіі распрацуюцца. Таму людзям будучыні прырода будзе куды бліжэй да цела, чым нам.

САМЫ ВЯЛІКІ СУЧАСНЫ РЫТЭЙЛЕР ЭКА-МОДЫ PATAGONIA ІСНУЕ ЎЖО 40 ГОД І ПРАДСТАЎЛЕНЫ Ў ШМАТЛІКІХ КРАІНАХ.

Інфармацыю пра этычныя тэхналогіі вытворчасці і эка-брэнды вы можаце знайсці на сайце www.ecofashionworld.com

***

Нажаль, ні ў Беларусі, ні ў Расеі экалагічныя маркі не прадстаўленыя. Набыць рэчы можна толькі праз інтэрнэт-крамы сусветных вытворцаў. У Беларусь ладзіць бясплатную дастаўку фірма aquestionof.net. (Кошты: футболка ~ 40 EUR сўітшот ~ 80 EUR. Аплата праз картку VISA, MasterCard, Maestro).

Раю маладым беларускім дызайнерам і мадэльерам не ігнараваць новыя тэндэнцыі.

Чаму б Беларусі не заняць пакуль яшчэ вольную нішу ў зялёнай модзе і вырабляць вопратку з лёну, канопляў, кукурузы? Але рашэнні трэба прымаць вельмі хутка, бо ў 2020 годзе ў фэшн-індустрыі чакаецца эка-бум.

**Альбіна Трус**





# АБІРАЕМ ЛЕПШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ТВОРЫ

**У межах кампаніі "Наша мова" АРР "Дзедзіч" адкрывае галасаванне за выбар найлепшай прозы на беларускай мове. Спіс лепшых быў складзены ў выніку абмеркавання ў сацыяльных сетках і на сайце Дзедзіча, у якім прынялі ўдзел больш за 300 чалавек.**

З выказаных прапановаў быў складзены спіс са 140 твораў, якія прапанавалі найбольш актыўныя ўдзельнікі. Зараз прыйшоў час шляхам галасавання вызначыць лепшых з найлепшых. Для кагосьці гэта будзе лепшая дзясятка, для кагосьці – дваццатка, а нехта складзе для сябе спіс са 100 лепшых беларускіх празаічных твораў.




Кожны наведвальнік сайту мае права аддаць свой голас максімум за 10 найлепшых з яго пункту гледжання твораў. Галасаванне працягнецца да 30 красавіка. Яго вынікі і стануць ТОП-100 беларускай прозы па версіі "Дзедзіча".

Спіс для галасавання ўтрымлівае гіперспасылкі на большасць твораў. Калі чалавек не чытаў тую ці іншую кнігу, па спасылцы ён можа знайсці тэкст гэтай кнігі альбо саму кнігу ў фармаце PDF. На жаль, некаторыя, асабліва сучасныя творы, абараняюцца аўтарскімі правамі і адшукаць іх можна толькі на паліцах беларускіх кнігарняў.

Кіраўнік "Дзедзіча" Дзмітрый Шымански заклікае карыстальнікаў інтэрнэта актыўна запрашаць сяброў прыняць удзел у галасаванні:

*- Ніхто не паверыць вынікам рэйтынгу, у якім будзе ўсяго 100 галасоў. Неабходна паставіць рэпрэзентатыўную планку, да якой мы будзем імкнуцца дайсці. Скажам, нам патрэбна мінімум 1000 галасоў. Таму зараз важна запрашаць сяброў браць удзел у галасаванні! Націскайце "мне падабаецца" і "распавесці сябрам", прыватнымі паведамленнямі запрашайце далучацца да галасавання. Змяшчайце спасылкі ў сваіх блогах, на старонках, на мясцовых і рэгіянальных форумах. Дасылайце інфу ці спасылкі журналістам.*

**dzedzich.org**

## АБ'ЯВЫ

## MUSIC-BY!

**АРР "Дзедзіч", "Аазіс" і "Моладзь БНФ" працягваюць кампанію "Наша мова" па папулярызацыі беларускай мовы ў розных галінах жыццядзейнасці беларусаў. У гэты раз вызначаецца самая папулярная айчынная музыка.**

У рамках кампаніі аматарам музыкі прапануецца абраць лепшыя на іх погляд песні беларускіх выканаўцаў (вядома, на роднай мове) па наступных намінацыях:

1) **BY-Dance** (папулярная танцавальная музыка)
2) **БардArt** (аўтарская, бардаўская песня)
3) **Наша традыцыя** (фольк і этнамузыка, магчыма paganmetal)
4) **Жыве rock`n`roll!** (айчынныя rock-кампазіцыі)
5) **Наша цяжкасць** (metal усіх накірункаў, hardcore, punk і астатняя цяжкая інструментальная музыка)
6) **Hip-Hop паэзія** (песні гар-выканаўцаў і набліжаныя да іх стылі)
7) **Нота пратэсту!** (песні, якія адлюстроўваюць пратэстныя настрої, нязгоду і інш.)
**8) Спяем пра Радзіму!** (песні пра Беларусь)
9) **Кахаю ды спяваю** (песні пра каханне)
10) **РжакаSong** (лепшыя гумарыстычныя кампазіцыі)

Свае прапановы трэба пісаць у абмеркаваннях у сустрэчы ў Кантакце – http://vk.com/event36760887

Па выніках у кожнай намінацыі будзе вызначаны рэйтынг з 10 кампазіцый. Такім чынам мы атрымаем 100 лепшых песень на беларускай мове.

**dzedzich.org**

# КРУГЛОЕ ОЗЕРО ИЩЕТ ВОЛОНТЕРОВ

**Белорусское молодёжное общественное объединение «Разные-Равные» приглашает молодых людей принять участие в подготовке и проведении Летнего интеграционного палаточного лагеря «Круглое озеро-2012».**

Участниками палаточного лагеря «Круглое озеро-2012» станут молодые люди в возрасте **от 18 до 31 года.** На протяжении 10 дней ребята с ограниченными физическими возможностями и их здоровые сверстники смогут принять участие в различных образовательных мероприятиях, а также весело и с пользой отдохнуть. Такое тесное взаимодействие помогает участникам лагеря разобраться в себе, понять других, убеждает, что только активными действиями каждый из нас может сделать свою жизнь лучше.

**Место проведения лагеря**: берег Плещеницкого водохранилища (примерно 85 км от Минска).

Для подготовки и проведения Летнего интеграционного палаточного лагеря «Круглое озеро-2012» организаторам лагеря необходима помощь волонтеров в период времени с 02.07.12 по 19.07.12.

**Чтобы стать волонтером Летнего интеграционного палаточного лагеря «Круглое озеро-2012»:**

Нужно иметь: искреннюю мотивацию и опыт добровольческой (волонтерской) деятельности.

Нужно быть:
- старше 18 лет;
- коммуникабельным, открытым, приветливым, доброжелательным, неконфликтным, гибким человеком;
- ответственным и оперативным в работе;
- уравновешенным и выносливым.

**Нужно быть готовым к:**
- ненормированному графику работы;
- участию подготовке стоянки лагеря: благоустройство, поддержание чистоты, сборка/разборка объектов лагеря, палаток, тентов;
- работе по обеспечению порядка, благоустройству и поддержанию чистоты в лагере;
- работе на кухне: помощь повару, поддержание огня, мойка кухонного оборудования;
- активному участию в жизни лагеря;

**Добровольцы (волонтеры) обеспечиваются:**
- бесплатным питанием (горячим и свежим, не менее, чем три раза в день);
- возможностью бесплатного участия в программе лагеря;

Просим всех желающих оказать помощь в подготовке и проведении палаточного лагеря «Круглое Озеро» писать на e-mail: *different-equal@mail.ru* или звонить по тел. **+375 29 5556838**



## ПАЕЗДКА Ў ЗОНУ АДСЯЛЕННЯ ЧАЭС

**26 красавіка спаўняецца 26 год з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС. АРР "Дзедзіч" прапануе адзначыць гэтую дату азнаямляльнай экскурсіяй па закінутых вёсках чарнобыльскай зоны.**




Экскурсія ў бліжэйшую зону адсялення адбудзецца **21-22 красавіка**. Выезд з Берасця ў пятніцу (20.04), у 19-00. Вяртанне ў панядзелак (23.04), у 7-40.

Падчас паездкі плануецца наведаць мясціны, якія пацярпелі ад аварыі, даведацца пра трагедыю, пазнаёміцца з ліквідатарамі, пагутарыць з людзьмі, якія працягваюць жыць у зоне адсялення. Начлег адбудзецца ў намётах каля вогнішча.

Таксама пасля сярод удзельнікаў экскурсіі будзе абвешчаны конкурс творчых прац (фота, эсэ, нарысаў, апавяданняў і г.д.). Экскурсія адбудзецца не па горадзе Прыпяць, а толькі па бліжэйшых закінутых вёсках!

**Кошт паездкі**: 160.000. Сюды ўваходзіць: праезд цягніком у абодва бакі (Берасце-Гомель, Гомель-Берасце), экскурсійны бус.

Харчаванне трэба браць з сабой. А яшчэ 30.000 на ваду і агульную вячэру.

Калі Вы жадаеце паехаць, звяртайцеся па тэлефоне (029) 228-11-25 (Ірына), ці звязвайцеся праз групу Укантакце http://vk.com/brest_gomel_21_22.

**dzedzich.org**

## ДАРЭЧЫ

Бабкі глядзяць на мяне ў аўтобусе, як быццам я павінен саступіць ім месца. А НІЧОГА, ШТО Я БУХАЎ УСЮ НОЧ, А ВЫ СПАЛІ?

***

Кантралёр на адэскім рынку:

- У вас ёсць дакументы на гэту рыбу?

- А што вам трэба? Пасведчанне аб смерці?

***

Тралейбус, час пік. У натоўпе крычыць мужык:

- Дапамажыце! Мой сын здушыўся пятаком! Ён памірае!

Скрозь натоўп праціскаецца тоўстая цётка, хапае мальца за яйкі і страшна іх сціскае! У беднага хлопца з глоткі вылятае пяць рублёў і крык «А-а-а-а-а!!!!!» Бацька з павагай:

- Ух ты! Вы, напэўна, у хуткай дапамозе працуеце?

- Не. У падатковай.

***

Займальная матэматыка: не можаш знайсці сваю палову - знайдзі дзве чацвярцінкі!

***

Узрост гаішніка можна вызначыць па колькасці палосак на яго жэзле.

***

Адзін чалавек здзейсніў злачынства. Яго злавілі і прывялі на суд да караля. За яго ўчынак належыла смяротнае пакаранне, але кароль прапанаваў яму самому абраць свой лёс: або быць павешаным, або патрапіць за вялікія, чорныя, страшныя сталёвыя дзверы. Злачынец падумаў і абраў шыбеніцу.

Калі на шыю яму накінулі завесу, ён раптам сказаў:

- Мне стала цікаўна: што там, за тымі дзвярыма?

Кароль засмяяўся:

- Ды вось, разумееш, пацешная штука атрымліваецца. Я ўсім прапаноўваю гэты выбар, і ўсе выбіраюць шыбеніцу.

- А за дзвярыма што? - дапытваўся злачынец. - Я ўсё адно нікому не скажу, - дадаў ён, паказваючы на вяроўку.

Памаўчаўшы, кароль адказаў:

- Там воля. Але людзі так баяцца невядомага, што аддаюць перавагу вяроўцы!

***

Жыхар Берасця прыехаў у Польшчу і пайшоў да стаматолага зубы лекаваць. Стаматолаг пытаецца:

— Чаму ты ў сябе ў Берасці зубы не лякуеш?

— А ў нас рот нельга раскрываць.

***

Галоўнае ў жанчыне не грудзі, а вочы! Паверце, жанчына без вачэй выглядае значна страшней!

***

Цеплаход праходзіць побач з невялікай выспай у акіяне, на якой барадаты мужчына штосьці крычыць, адчайна размахваючы рукамі.

- Хто гэта? - пытае пасажыр капітана.

- Паняцця не маю. Кожны год, калі мы тут праходзім, ён вось гэтак жа вар'яцее.

***

Ідзе жанчына, за ёй усю дарогу ідзе мужык. Жанчына паварочваецца да яго і пытае:

- Чаму вы ідзеце за мной усю дарогу?

- Вось калі ты павярнулася да мяне тварам, я задаў сабе тое ж пытанне!

Лектар на пары:

- Ну колькі можна балбатаць? Выйдзі замест мяне і працягні!

Студэнт выходзіць да дошкі:

- УСІМ ДЗЯКУЙ, УРОК СКОНЧАНЫ!

***

Пеця скурваў 20 цыгарэт у дзень, а Коля скурвае 15 цыгарэт у дзень.

Пытанне : ці не насцярожвае Колю тое, што пра Пецю згадваецца ў мінулым часе?

***

У пакой да сына-студэнта заходзіць бацька:

- Сынок, тут такая справа... Мама вырашыла ў гаражы зрабіць прыборку і ў бардачку жаночыя трусікі знайшла. Я ёй сказаў, што ты браў у мяне ключы ад машыны.

- Але ж мама ведае, што я вадзіць не ўмею!

- Ведае! Сынок, ты, галоўнае, пацвердзі, што ключы браў, а бампер я ўжо пагнуў!

***

Microsoft купляе Skype за $8,5 млрд.

Каментар: Ну і дурні) яго ж за бясплатна з інэту запампаваць можна)

***

Муж вырашыў прысутнічаць пры родах. Жонка пачала нараджаць - страціў прытомнасць, адкачалі! Так яшчэ пару разоў. Ачуўся. Яму кажуць:

- Віншуем! Вы сталі татам!

- Хто нарадзіўся?

- Дачка!

- Ну, дзякуй богу! Хоць не будзе мучыцца так, як я!

***

Час 11 вечара, мужа дома няма, жонка на кухні чакае з паліцай. Званок. Жонка адкрывае - стаіць муж: у адной руцэ букет пунсовых руж, у іншай - торцік, на твары - далікатная ўсмешка.

- Добры вечар, дарагая! Гэта табе.

- Ой, дарагі. А што, сёння свята якое, угодкі вяселля?

- Ды не. Так проста. Пойдзем у спальню, а?

- Пастой, павячэрай хоць.

- Не, не, пойдзем.

- Ну хоць чаю з торцікам пап'ём.

- Не, пайшлі хутчэй!

- Эх-х (цяжка ўздыхае). Ведаеш, мне сёння нельга.

- Ды вы што, згаварыліся ўсе?!

***

На іспыце па латыні студэнт-двоечнік выпадкова выклікаў д'ябла.

***

Патрабуецца 7 секунд, каб ежа патрапіла з рота ў страўнік.

Чалавечы волас можа вытрымаць нагрузку ў 3 кілаграмы.

Даўжыня палавога члена - гэта 3 даўжыні вялікага пальца.

Жанчыны міргаюць у 2 разы часцей, чым мужчыны.

Дзяўчыны ўжо прачыталі гэты тэкст. Хлопцы ўсё яшчэ глядзяць на свой вялікі палец.

***

У пад'ездзе не было маладых дзяўчын, і бабкі на лаўцы звалі прастытуткай дворніка.

***

- Прывітанне! Што робіш?

- Прэс качаю.

- А што гэта?

- Карысна для здароўя і для фігуры.

- Дай спасылку, я таксама закачаю!

Ідзе прапаршчык па танкавай частцы - бачыць што баец з малатком на палец дуе.

- Што такое?

- Ды вось цвік забіваў, па пальцу патрапіў.

- Хто-ж так б'е?! Глядзі як трэба!

Бярэ цвік і лбом па самую шляпку у сцяну ўганяе.

Баец афігевае ад такога і пытае:

- Таварыш прапаршчык, а ў бетонную сцяну можаце?

- Ды без пытанняў!

Бярэ цвік і зноў па шляпку ў сцяну лбом заганяе.

Баец яшчэ больш афігевае, але не адстае:

- Таварыш прапаршчык, а ў браню можаце?

- Ды без праблем!

Бярэ цвік і ў танк ілбом па цвіку лупіць. Цвік хіліцца але не лезе. Тут ужо прапар афігевае, бярэ другі цвік, ізноў б'е, ізноў цвік хіліцца. Тут прапар не вытрымлівае, лезе ў танк, а там - іншы прапар спіць і галавой да брані прыхінуўся.

***

Парадокс мовы: чамусьці людзям значна прасцей сказаць «Эээ» і патыкаць пальцамі ў манітор, чым сказаць «Змяні мову, ты пішаш ангельскай».

***

Купіў курс «Ангельская мова ў сне». Цэлы год ставіў перад сном касету. Вынік некалькі нечаканы: пры гуках ангельскай гаворкі імгненна засынаю.

***

Ідзе паседжанне ў прэзідэнта. Вырашаюць, як выкарыстоўваць палі пасля «Чарнобыля»:

- Збожжавыя сеяць нельга, карняплоды тым больш...

- А давайце засеем палі тытунем, а на пачках цыгарэт напішам: «Міністэрства аховы здароўя апошні раз папярэджвае...»

***

Распавялі маленькаму Вовачцы сябры, што ва ўсіх дарослых ёсць які-небудзь сакрэт і таму іх вельмі лёгка шантажаваць. Вырашыў Вовачка праверыць гэта і, прыйшоўшы дахаты пасля школы, сказаў маме з сур'ёзным выглядам:

- А я ўсё ведаю!

Мама збялела і сунула Вовачцы 20 даляраў:

- Толькі тату не кажы!

Вовачцы гэта вельмі спадабалася і, калі тата прыйшоў з працы, ён сказаў яму:

- А я ўсё ведаю!

Тата нервова паглядзеў па баках і даў Вовачцы 50 даляраў:

- Маме ані словы!

Раніцай Вовачка сустрэў паштальёна каля пад'езду:

- А я ўсё ведаю!

Паштальён выпусціў торбу, сляза заззяла на яго шчацэ і, расставіўшы рукі для абдымак, ён пракрычаў:

- Дык ідзі ж, абдымі свайго тату, сынок!

***

Цётка тэлефануе ў службу выратавання: у нас у двары на дрэве мядзведзь сядзіць.

Праз гадзіну ў дзверы грукае дзядзька, з ім пітбультэр'ер:

- Карацей, так. Мяне клічуць Коля, яго - Кефірчык. План дзеянняў такі: вы бярэце стрэльбу, устаеце ля акна, я залажу на дрэва, спіхваю мядзведзя, ён валіцца, Кефірчык хапае яго за яйкі і цягне ў заапарк. Усё зразумела?

- Усё, толькі навошта я ля акна, з ружжом?

- Гэта на выпадак, калі звалюся я, а не мядзведзь. Тады мачы Кефірчыка!

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 15.04.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Г. Когаць, К. Шэлест. **Адказны за выпуск:** Альбіна ТРУС.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў

**№4(73) • КРАСАВІК 2012**